№№119–120
(3658–3659)

3 жніўня 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АДСТАЎКІ

## Упершыню ў гісторыі плюшавыя цацкі перамаглі генералаў

*Як вядома, старшыня Дзяржаўнага памежнага камі-тэта генерал-маёр **Ігар Рачкоўскі** і камандуючы Ваенна-паветранымі сіламі і войскамі супрацьпаветранай абароны генерал-маёр **Дзмітрый Пахмелкін** вызвалены ад займаемых пасад за неналежнае выкананне службовых абавязкаў па забеспячэнні нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь.*

Такі вынік "плюшавага дэсанту" на Беларусь, які 4 ліпеня ўчынілі на лёгкаматорным самалёце грамадзяне Швецыі.

Ігар Рачкоўскі будзе залічаны ў распараджэнне Дзяржаўнага памежнага камітэта, Дзмітрый Пахмелкін — у распараджэнне міністра абароны.

Акрамя таго, аб няпоўнай службовай адпаведнасці папярэджаны міністр абароны генерал-лейтэнант Юрый Жадобін і начальнік генеральнага штаба Узброеных сіл — першы намеснік міністра абароны генерал-маёр Пётр Ціханоўскі. У дадатак абвешчаны вымовы дзяржаўнаму сакратару Савета бяспекі Беларусі генерал-палкоўніку Леаніду Мальцаву і старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі генерал-лейтэнанту Вадзіму Зайцаву.

Можна сказаць: "Нарэшце!" Хоць праз месяц, але кіраўнік дзяржавы знайшоў вінаватых у тым, што праз беларускую мяжу ляцеў хто хацеў. І як ні хлусілі ваенныя з самага пачатку, як ні запэўнівалі ўсіх у тым, што здымкі самалёта — гэта фоташоп і відэамантаж, але падмануць грамадства ім не ўдалося.

Але, з іншага боку, звяртаюць на сябе ўвагу дзве важныя дэталі.

У абавязкі Памежнага камітэта не ўваходзіць назіранне за паветранымі цэлямі. Тым не менш адбылася адстаўка Ігара Рачкоўскага, якога лічаць не проста ўплывовым чалавекам, але і блізкім сябрам сям'і дарадцы кіраўніка дзяржавы па пытаннях нацыянальнай бяспекі Віктара Лукашэнкі.

Другая дэталь: войскі супрацьпаветранай абароны чакаюць чацвёртага камандуючага за апошнія паўтара года. У снежні 2010 года быў арыштаваны Ігар Азаронак, які зараз знаходзіцца за кратамі. На месца Азаронка быў прызначаны Сяргей Лемяшэўскі. Але сёлета, у лютым, і ён быў адпраўлены ў адстаўку з фармулёўкай «за правіны, што дыскрэдытуюць званне ваеннаслужачага». У той самы дзень Лукашэнка даў згоду на прызначэнне Дзмітрыя Пахмелкіна ў войскі ВПС і СПА. Але гэты генерал ужо трапіў пад "плюшавы дэсант". Што адбываецца ў гэтых войсках?..

ТЫМ ЧАСАМ

## А хлопцы сядзяць…

Студэнт-журналіст **Антон Сурапін**, які выставіў на сваім сайце фотаздымкі цацак, якія скідвалі шведы, а таксама рыэлтар Сяргей Башарымаў (з ім яны вялі перамовы аб здачы кватэры) застаюцца ў следчым ізалятары КДБ.

Андрэй Сурапін, бацька Антона, усё ж спадзяецца, што прызнанне факту парушэння паветранай прасторы шведскім самалётам прыспешыць вызваленне сына:

— Найперш, ужо добра, што ў справе Антона хоць нешта скранулася з месца, гэта ўжо крыху радуе, — сказаў Андрэй Сурапін Радыё Свабода. — Таму спадзяюся, што для яго павінна ўсё ж нешта павярнуцца ў лепшы бок. Прынамсі, калі там адэкватныя людзі, то яны павінны выпусціць яго, таму што чалавек паказаў ім рэальныя дзіркі ў паветранай прасторы, не патраціўшы ніводнай капейкі бюджэтных сродкаў. Паказаў, вядома, ускосна, бо ён жа не ведаў, што гэты самалёт нелегальна лётае над Беларуссю, проста апублікаваў на сваім сайце фотаздымкі. І толькі пасля, праз гэтыя фатаграфіі, раскрылася, што той самалёт у нас тут быў незаконна. Нават чалавек, які рабіў гэтыя здымкі, як разважае? Калі самалёт лётае над галавой і нешта раскідвае, значыць, яго нехта сюды ўпусціў. Хто мог ведаць, што гэта не так і што захочуць некага пакараць за выкладзеныя здымкі? У гэтай палітыцы я ўжо не разбіраюся...

## Хто куды?

Беларускія рэаліі такія, што не трэба надта ўжо шкадаваць тых, хто адпраўлены ў адстаўку. Часта яны атрымліваюць раўназначныя пасады, а то і лепшыя.

Так, напрыклад, здарылася з былым камандуючым усё тых жа Войскаў супрацьпаветранай абароны. Генерал-маёр **Алег Пафераў** быў нават звольнены з арміі па ўзросце. Але веды і вопыт гэтага ўжо немаладога чалавека зноў спатрэбіліся. Алег Пафераў прызначаны паслом Беларусі ў Венесуэле. І хто пасля гэтага будзе гаварыць, што з "сябрам Чавесам" у нас выключна мірныя зносіны?..

Але і гэта не адзінае прызначэнне.

Апошнім часам у юрыстаў, грамадскіх актывістаў, простых людзей шмат было нараканняў на дзейнасць пракуратуры Мінска. Яна нібы аслепла і анямела, не заўважаючы нават відавочных парушэнняў закона. Затое кіраўнік сталічнай пракуратуры **Аляксандр Архіпаў** пайшоў на павышэнне і стаў намеснікам генеральнага пракурора.

На яго месца прызначаны былы брэсцкі пракурор **Сяргей Хмарук**. Ён едзе ў сталіцу з рэпутацыяй прыстойнага, узважанага чалавека і вельмі кваліфікаванага юрыста. Па крайняй меры, такім яго лічылі ў Брэсце. А як яно будзе ў Мінску — паглядзім.

У сваю чаргу Брэсцкую пракуратуру ўзначаліў **Іван Наскевіч**, які раней працаваў пракурорам Пінскага раёна і таксама мае выдатную рэпутацыю сярод калег. Па крайняй меры, не многія з іх могуць пахваліцца лістамі з падзякамі ад былых асуджаных. А Наскевіч можа.

Брэстчына стала кадравым рэзервам і яшчэ для адной высокай пасады — пракурорам Мінскай вобласці прызначаны **Алег Лаўрухін**, які раней быў намеснікам пракурора Брэстчыны.

КАЛІ ВЯРСТАЎСЯ НУМАР

Аляксандр Лукашэнка прызначыў старшынёй Дзяржаўнага пагранічнага камітэта палкоўніка **Аляксандра Баячко**.

Аляксандр Баячко дабраахвотнікам пайшоў у Афганістан, потым служыў у Гродзенскім і Лідскім пагранатрадах, з адзнакай скончыў маскоўскую Акадэмію федэральнай пагранічнай службы. Апошнім часам працаваў намеснікам начальніка ўпраўлення аховы мяжы штаба Дзяржаўнага камітэта пагранвойск Рэспублікі Беларусь.

ОЛИМПИАДА-2012

# Триумф и слезы

*Первую медаль для Беларуси на Олимпиаде завоевала тяжелоатлетка Марина Шкерманкова.*



Мы все так ждали этой награды! Разочарованием, обидой, недоумением закончилось выступление на Олимпиаде тяжелоатлетки Анастасии Новиковой. Бронзовый призер олимпиады в Пекине, Новикова не скрывала, что едет в Лондон только за золотом. В итоге — только седьмое место, поскольку судьи не засчитали Насте две попытки.

Отдельного изучения требует тема, действительно ли «провинилась» Новикова, в лучшей ли своей форме она приехала на Олимпиаду и почему еще до вручения наград белорусские тренеры не подавали апелляцию и не пытались отвоевать награду? Однако в этом «Народная Воля» попытается разобраться в следующих номерах. 1 августа героиней дня стала **Марина Шкерманкова**, выступавшая в весе до 69 килограммов и завоевавшая бронзу. «Я еще не могу осознать... Не могу осознать...» — сразу после соревнований говорила счастливая Марина.

Она только недавно перешла из юниорского во взрослый спорт. Столь высоких наград у нее никогда не было: для бывшей юниорки большим успехом считалось и пятое место на чемпионате мира. Тем не менее наши тренеры очень надеялись на медаль белорусок в этой весовой категории. Две спортсменки — Марина Шкерманкова и Дина Сазановец — соревновались между собой. Так случилось, что, подруги в жизни, на помосте они — соперницы. На Олимпиаде в Лондоне они подняли одинаковый вес. Но личный вес Сазановец оказался на 300 граммов меньше, чем у Марины. Поэтому обидное 4-е место...

Дина Сазановец после этих соревнований плакала... Марина Шкерманкова была счастлива... Журналисты попытались похлопотать за Сазановец и обратились к вице-президенту Национального олимпийского комитета Игорю Заичкову: «Получается, что премии за бронзовую медаль достойны обе спортсменки. Может, выйти с ходатайством, чтобы Сазановец выплатили премию?»

Ответ был «Нет!». Спорт есть спорт. Медаль — это медаль. А за четвертое место положена президентская стипендия.

Поздравляем Марину Шкерманкову, поздравляем Дину Сазановец! Они обе молодые спортсменки и впереди у них олимпиада в Рио-де-Жанейро!

**Олег СНОВ.**

*Иван ШКЕРМАНКОВ:*

## «Первое время Марина скрывала, что занимается тяжелой атлетикой»

*Этой бронзовой олимпийской медали в тяжелой атлетике от 22-летней Марины Шкерманковой не ждали даже родители новоиспеченной звезды. Но сейчас в родном Глубоком отцу медалистки пришлось взять отгул, чтобы принимать поздравления от болельщиков, чиновников, журналистов... Все-таки первая белорусская медаль!*

— Трансляцию соревнований по тяжелой атлетике смотрели вместе с соседями, хоть у каждого дома есть свой телевизор, — *поделился с «Народной Волей» отец первой белорусской медалистки Иван Иванович.* — Конечно, нервничали, волновались, но это естественно. Корвалол пили все!

**— Наверное, масла в огонь подлила история с Анастасией Новиковой?**

— Нас это происшествие очень взволновало. Я боялся, что на Марину перед соревнованиями это подействует негативно. Хотя допускал возможность, что могут засудить. Ведь так неправильно это было с Настей, так обидно!

**— Марина сразу сказала, что посвящает свою медаль родителям. Вы ведь тоже занимались спортом, наверное, как никто, представляете, чего стоила эта победа?**

— Да какие там спортсмены! Занимались непрофессионально. Когда-то в детстве я начал заниматься легкой атлетикой, а потом перешел в тяжелую. Но это было несерьезным увлечением. Кстати, когда Марина в спорт пошла, то не знала о том, что у меня раньше похожие увлечения были. Только потом выяснилось, что идет-то точь-в-точь по моим стопам. Только намного-намного выше!

**— Правда, что ваша супруга была настроена против увлечения дочери тяжелой атлетикой?**

— Сначала дочь метала копье, а потом сменила направление. Первое время Марина скрывала, что занимается тяжелой атлетикой. Конечно, потом все это наружу выплыло. Узнали и начали отговаривать, особенно мама. Не женский вид спорта и так далее, и так далее... Я-то, в принципе, молчал. А что говорить? Пусть сама выбирает. Сделаешь поперек воли, а потом, сами знаете, только хуже будет.

**— Марина с детства нацелилась на спорт или мечтала быть учителем, доктором?**

— Она пошла в спорт где-то с пятого класса и уже ничем другим заниматься не хотела. Правда, когда была помладше, как и все девочки, хотела петь.

**— Неужели увлечение музыкой заброшено? Даже на семейных встречах она не вспоминает о песнях?**

— Да какое там! Семейные встречи у нас бывают раз в полгода, да и то на дня два. Так что не до песен. Успеть бы обменяться новостями!

**— Марина ваша единственная дочь?**

— У нее есть старшая сестра, которая с двумя детьми живет в Могилеве. А Марина пока не замужем.

**— Гонорар, который сопутствует бронзовой медали, — 50 тысяч долларов. Думали, куда потратить деньги?**

— Я не знал точную сумму призовых! Мы же о медали не думали. Задача была попасть в шестерку. Но попали выше...

**Мария МАЛЕВИЧ.**

КСТАТИ

Напомним, что в рамках проекта «Олимпийский выбор» каждый чемпион и призер Игр имеет право выбрать детско-юношескую спортивную школу, которой Президентский спортивный клуб окажет безвозмездную спонсорскую помощь.

50 миллионов рублей Марина Шкерманкова решила передать Витебскому государственному училищу олимпийского резерва. Именно там она делала свои первые шаги в тяжелой атлетике.

СЛЫШАЛИ?

## Повышения зарплат в августе не будет...

*Обещанное повышение зарплаты бюджетникам перенесено с августа на сентябрь.*

Об этом сообщает информационное агентство «Интерфакс» со ссылкой на свои источники.

*«С учетом замедления инфляции повышение тарифной ставки первого разряда с августа не состоится. Скорее всего это произойдет с 1 сентября»,* — сказал анонимный собеседник агентства в госорганах.

В пресс-службе Совмина пока не могут ничего сказать о решении правительства по поводу повышения или сохранения тарифной ставки с 1 августа.

Напомним, что Александр Лукашенко 21 июня поручил правительству рассмотреть вопрос о повышении с 1 августа и в октябре текущего года тарифной ставки первого разряда. Однако заместитель министра финансов Максим Ермолович на пресс-конференции 25 июля выразил сомнение в возможности повышения тарифной ставки с 1 августа. *«Когда произойдет очередное повышение тарифной ставки первого разряда, в августе или позже, будет известно в ближайшие дни, когда будет принято решение о тактике поведения в части повышения тарифной ставки первого разряда. Возможно, пока необходимости повышать заработную плату и не будет»,* — сказал Ермолович.

Что в данном случае понимается под словом «необходимость», сказать сложно. Однако тарифы на услуги ЖКХ правительство с 1 августа уже повысило.

БЛІЦ

**Інфармацыйна-аналітычны цэнтр пры Адміністрацыі прэзідэнта адрапартаваў, што больш за 83 працэнты грамадзян Беларусі гатовы прыняць удзел у выбарах у Палату прадстаўнікоў. Такая лічба як быццам была атрымана каляпрэзідэнцкімі сацыёлагамі па выніках апытання... і ў яе проста немагчыма паверыць. Таму "Народная Воля" вырашыла пацікавіцца ў звычайных людзей:**

## Вы верыце ў тое, што 83 працэнты выбаршчыкаў гатовы браць удзел у галасаванні на маючых адбыцца выбарах?



**Ядвіга КІЙКО, г.Баранавічы, настаўніца музыкі:**

— Асабіста я ніяк не магу пагадзіцца з "прагнозам" улад адносна колькасці беларусаў, якія быццам бы гатовы прыняць удзел у восеньскіх парламенцкіх выбарах. Гэтаксама думаюць і мае сябры, знаёмыя, не кажучы ўжо пра блізкіх і далёкіх родзічаў-сваякоў. То адкуль тыя 83 працэнты, пра якія баюць лукашэнкаўскія прапагандысты і кішэнныя сацыёлагі?! Трэба быць поўным ідыётам, каб паверыць у сумленнасць Ярмошынай і кампаніі, усёй гэтай збанкрутаванай сістэмы. Колькі можна наступаць на адны і тыя ж выбарчыя граблі?!. Хай сабе гуляюць у свае гулі, нам таго клопату... Байкот і толькі байкот! Гэта, можа, адзінае, на што яшчэ здольныя беларусы. Калі не можам прыпадобніцца да арабаў, то хоць пакажам дулю ў кішэні...



**Міхаіл ТУРАВЕЦ, г. Мінск, працуючы пенсіянер, энергетык:**

— Ніякія выбары пры дадзенай сістэме "ўладных каардынат" не выклікаюць у мяне даверу. Адсюль рабіце выснову... Калі зусім коратка, то мне цяжка паверыць, што 83 працэнты суайчыннікаў рынуцца на выбарчыя ўчасткі. Чаму? Трэба зусім сябе не паважаць, каб у чарговы раз нас абвялі вакол пальца. Хопіць папярэдніх "парламентаў", якія адно — для блізіру, для мэблі, як кажуць... Але ў кожнага свая галава на плячах, свой розум і сваё сумленне. І потым... Сказалі 83 працэнты, то так і зробяць. Хіба ім упершыню мухляваць з лічбамі?



**Лізавета СТАНКЕВІЧ, Мінск, пенсіянерка:**

— Не ведаю, як іншыя, але мне падаецца, што наўрад ці гэтулькі людзей ахвяруюць уласным часам дзеля сумніўных выбараў. Праходзілі ж "выбарчыя ўрокі" неаднойчы... І што? Толькі і думаеш, як выжыць, як пракарміць сям'ю на тыя пенсіённыя капейчыны, якія табе кідаюць нібы жабраку. Палітыкі, улада жывуць самі па сабе, а ўсе астатнія — выжываюць, як могуць... Таму я лепш паеду на дачныя соткі ці займуся хатняй гаспадаркай — гэта і карысна, і хоць якое задавальненне. А выбары дэпутатаў... Гэта для тых, каго ўсё задавальняе. Пакуль не выкуецца нейкая грамадзянская супольнасць, а яна куецца не хаджэннем "быкоў на пагібель", — то ці варта патураць тым, хто вам дурыць галовы?

**Апытанне праводзіў Георгій ЧЫГІР.**

АФІЦЫЙНА

## *Пераразлік*

З 1 жніўня будзе праведзены пераразлік працоўных пенсій.

Пенсіі, пры вылічэнні памеру якіх не прымяняецца бюджэт мінімуму, павялічацца на 17,1%.

А з улікам новай велічыні бюджэту павышаюцца і даплаты да пенсій непрацуючых пенсіянераў. Для тых, хто дасягнуў 75-гадовага ўзросту, даплата складзе 158 тысяч, 80 гадоў — 211 тысяч беларускіх рублёў.

НАДВОР'Е

## *Спёка вяртаецца*

Згодна з прагнозам Рэспубліканскага гідраметэацэнтра, у найбліжэйшыя суткі, 3 жніўня, у Беларусі чакаецца пераменная воблачнасць. Ноччу пераважна без ападкаў, днём у асобных раёнах кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Ноччу і раніцай месцамі слабы туман. Тэмпература паветра ноччу +12–19°С, днём ад +27°С па поўначы да +33°С па поўдні. У Мінску днём +28–30°С.

4 жніўня па краіне прагназуецца пераменная воблачнасць. Месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ноччу +12–19°С, днём +27–34°С, па паўночным захадзе +24–26°С.

5 жніўня ў Беларусі чакаецца пераменная воблачнасць. У асобных раёнах кароткачасовыя дажджы, магчымы навальніцы. Тэмпература паветра ноччу +10–17°С, днём +27–34°С, па поўначы +24–26°С.

ГАЗЕТА—ЧЫТАЧЫ

## *Падпісацца на "Народную Волю" можна ў любы дзень...*

Непрыкметна праляціць жнівень, і ў гарады вернуцца дачнікі, з адпачынкаў — рабочыя, служачыя, з канікулаў — студэнты...

Каб у верасні атрымліваць дахаты "Народную Волю", Вы можаце ў любы дзень зайсці на пошту і аформіць падпіску. Кошт на месяц — усяго 19.000 рублёў.

**Вы — з "Народнай Воляй", "Народная Воля" — з Вамі!**

Народная Воля http://www.nv-online.info 3 ЖНІЎНЯ 2012 г.

ЮБІЛЕЙ

# Лукашэнка назваў Эдзіту П'еху "добрым сябрам"

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку СССР Эдзіту П'еху з 75-годдзем.

У пасланні ад А.Лукашэнкі было шмат прыемных эпітэтаў. Між тым, у адрозненне ад Філіпа Кіркорава, ордэн Францыска Скарыны ёй не паабяцалі.

*«Вы з'яўляецеся адной з лепшых прадстаўніц той кагорты выдатных майстроў эстрады, дзякуючы якім гэты жанр стаў высокім мастацтвам, — адзначыў кіраўнік дзяржавы. — У вашым выкананні нават простыя словы і мелодыі ператвараюцца ў залатыя шлягеры, якія заўсёды гучаць дзіўна кранальна і сучасна.*



*На беларускай зямлі вы заваявалі прызнанне як выдатная артыстка і добры сябар нашай краіны. Перакананы, што і ў далейшым вы будзеце радаваць нас сваімі песнямі, спрыяючы развіццю культурных сувязяў паміж народамі Беларусі і Расіі".*

ФОТАФАКТ

# З Божай дапамогай



**Беларускіх алімпійцаў у Лондане суправаджае бацюшка. Гэта настаяцель сталічнага Усіхсвяцкага прыхода, протаіерэй Фёдар Поўны. Пакуль у малітоўным пакоі ў асноўным чыноўнікі.**

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

# Как расшевелить мозги

*Вам знакома ситуация, когда после целой ночи зубрежки на экзамене память подводит? А накануне наверняка перебивались вермишелью быстрого приготовления, бутербродом всухомятку или какими-нибудь гамбургерами? Получив так называемые «пустые» калории, вы утолили голод, а вот мозг остался без подпитки. Если же хотите, чтобы ваша память впитывала необходимую информацию, как губка, позаботьтесь о пище не только для тела, но и для ума. В буквальном смысле.*

**Миф 1. Шоколад улучшает умственные способности.** Для работы нашему мозгу действительно требуется глюкоза, однако организму ее легче выделять из фруктозы, чем из сахарозы, так что предпочтительнее есть фрукты (отличный вариант — виноград), нежели шоколад.

Последние исследования свидетельствуют о том, что эффект от шоколада сродни никотиновому: он действительно заряжает энергией, но очень кратковременно, после чего состояние ухудшается, а вместе с ним и умственные способности.

**Миф 2. Некоторые шоколадные батончики способны «заряжать мозги».**

Про шоколадные батончики вообще лучше позабыть: чаще всего первую часть своего гордого названия они совсем не оправдывают. Вместе с ними вы получаете лишь пустые калории и еще массу непонятных веществ с индексом Е. В состав батончиков входят орехи, возразите вы. Но уж точно не грецкие! А ведь именно они содержат так необходимые для подпитки извилин омега-3 жирные кислоты.

**Миф 3. Кофе и энергетические напитки помогают сосредоточиться.** Во время сессии не стоит злоупотреблять напитками с высоким содержанием кофеина. Это может привести к нарушению сна и чрезмерной нервозности. В сутках все равно лишь 24 часа, с этим ничего не поделаешь!

**Миф 4. Все консервы одинаково бесполезны.** Если у вас нет ни времени на приготовление еды, ни заботливой мамы рядом, то даже консервы из магазина могут оказать неоценимую помощь. Смело покупайте кильку, скумбрию и сардины — они снабдят организм омега-3 кислотами, и то, что пять минут назад казалось «тьмой-тьмущей», вдруг окажется ясным и понятно изложенным материалом.

## Экспресс-идеи

**1.**Необходимо срочно запомнить большой объем информации? Воспользуйтесь излюбленным приемом многих театральных актеров: во время заучивания съешьте несколько ломтиков ананаса. Большое количество активных веществ, которые содержатся в этом фрукте, помогут вам удержать в памяти большой объем информации.

**2.**Чувствуете нервозность и усталость? Вам поможет репчатый лук. Только не наедайтесь перед экзаменом, не то занервничает преподаватель. Лук способствует разжижению крови, за счет чего улучшается снабжение мозга кислородом. При умственном переутомлении и психической усталости съедайте по половине луковицы ежедневно, и результат не медлит себя ждать.

**3.**Перед экзаменом съешьте салат из тертой моркови, изюма и измельченных грецких орехов, заправленный растительным маслом, сметаной или майонезом. Таким образом вы подтолкнете обмен веществ в мозгу и будете сами удивлены своими способностями быстро соображать.

**4.**Если хотите поразить экзаменатора своими гениальными идеями, выпейте накануне тминный чай: 2 чайные ложки семян на чашку залить кипятком и дать настояться. Эфирные масла, содержащиеся в чудо-напитке, стимулируют нервную систему и способствуют творческой активности.

## Правила

**1.Больше пейте.** Так вы будете лучше сосредотачиваться и снизите вероятность головных болей. Дело в том, что мозг очень страдает от недостатка жидкости. Предпочтение лучше отдать минеральной воде, зеленому чаю, фруктовым сокам, разбавленным кипяченой водой.

**2.**Вам сейчас особенно **необходимы витамины группы В,** так что включайте в рацион овсянку или мюсли, гречневую кашу, рис (рисовые супы с овощами, плов), а при приготовлении своих любимых бутербродов с колбасой используйте хлеб грубого помола. Не забывайте про молочные продукты: творожок, йогурт или стакан кефира снабдят витамином $B_2$ и послужат отличным перекусом, а стакан молока на ночь будет способствовать безмятежному сну. Рыба, яйца, мясо поддержат ваши силы и подкормят мозг витамином $B_{12}$.

ПАМЯЦЬ

# Вялікі Чалавек

*Сёння — 95 год з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля.*

*Як тут не ўзгадаць сустрэчы з гэтым дарагім мне чалавекам! Вялікім майстрам слова.*

З юнацкіх гадоў Іван Антонавіч цягнуўся да літаратуры. Пісаў як свае вершы (друкаваліся ў віленскім часопісе "Шлях моладзі"), так і перакладаў строфы Буніна, Міцкевіча, некаторых ленінградскіх паэтаў. Адначасова звяртаўся і да прозы.

Яго любоў і замілаванне да прыроды былі настолькі моцнымі, што ён адчуваў сябе яе часцінкай і мог гадзінамі хадзіць адзін па лесе, усцяж ракі, а калі да яго прыязджалі госці, то ён абавязкова паказваў ім дзівосныя краявіды Прынёмання, магутныя дубы наваколля. Мог па-дзіцячы дзівіцца моцы ўжо зваленага асілка-дуба, з пня якога расла белая прыгажуня бярозка. Пара іх прытулілася каля дарогі паблізу Брылёвага дома ў Крынічным. Калі ён з 1978 года пачаў жыць у Крынічным, дык любімым месцам яго працы, дзе ён напісаў многія свае творы, была невялічкая мансарда, на якой стаялі паліцы з кнігамі блізкіх яго сэрцу Льва Талстога, Чэхава, Адама Міцкевіча, Шаўчэнкі, Багдановіча і іншых. Самае галоўнае для яго тут былі не толькі дзівосныя гукі прыроды, якія шчодра ліліся ў шырока адчыненае вакно ад шчэбету рознагалосых птушак, цёплага ветрыку, але і цудоўны краявід чыстага бясконцага сіняга неба ці мудрагелістых аблокаў, кроны дрэваў...

Янка Брыль не любіў фантазіраваць складаныя сюжэты для сваіх апавяданняў, ён пісаў праўду жыцця, якую бачыў вакол сябе, лавіў найбольш важныя, тыповыя ці паэтычныя моманты, абагульваў іх і пісаў цудоўныя аповесці і апавяданні, у якіх дзейнічалі рэальныя прататыпы, такія блізкія і зразумелыя чытачу. Гэтаму дапамагалі запісы, якія ён рабіў з 15 гадоў. У запісныя кніжкі ён заносіў размовы з рознымі, часцей звычайнымі, простымі людзьмі, свае разважанні пра падзеі і жыццё народа, ад якога ён ніколі не адрываўся. У гэтым сэнсе ён сапраўдны народны пісьменнік, а не толькі афіцыйна прызнаны. Ад народа ўспрыняў той тонкі гумар, якім прасякнуты яго творы, і галоўнае — жывую, сакавітую народную беларускую мову. Янка Брыль казаў мне, што не разумее тых пісьменнікаў, якія балбочуць: "Ні дня без радка" або "Я дзве старонкі кожны дзень павінен напісаць". У яго галоўным было — гэта настрой, натхненне, і таму працаваў за сталом урыўкамі. Вельмі радаваўся, калі добра пісалася з сямі раніцы да 12 дня. Ён сябе лічыў "малафармістам" — аўтарам пераважна апавяданняў і мініяцюр, а таму на кожны твор трэба было настройвацца паасобку. Менавіта дзякуючы Янку Брылю мініяцюры, якія ў апошнія гады займалі першае месца ў яго творчасці, зрабіліся такім папулярным жанрам у беларускай літаратуры. Хаця ён паказаў сябе выдатным майстрам рамана, аповесцей, апавяданняў, эсэ, нарысаў.

Жыццё Янкі Брыля было нялёгкім. Да крывавых мазалёў пазнаў і сялянскі быт, і раннюю згубу бацькі і брата, службу ў марской пяхоце польскай арміі, нямецкі палон, уцёк на радзіму, удзел у партызанскім руху і падпольным друку, а пазней, ужо ў пасляваенны час, — недавер і незадавальненне ідэолагаў-чыноўнікаў яго праўдзівымі творамі...

Галоўнае ў жыцці і творчасці Янкі Брыля — адчуванне роднай зямлі, народа, мовы. Ён пісаў: *"Днямі зноў думалася пра крыніцу — родную мову, якой служыў і буду служыць як першаснове выхаду ў агульналюдскае"*. Ён лічыў, што твор пісьменніка павінен дыхаць праўдай і шчырасцю. Нішто не магло адштурхнуць вялікага патрыёта Бацькаўшчыны са шляху нацыянальнага адраджэння, якое можа адбыцца толькі на аснове нацыянальнай ідэі.

Усё жыццё Янка Брыль займаўся самаадукацыяй праз кнігу, без якой не мог уявіць сваё існаванне — *"кожны мой дзень быў вучобай"*. Таму і стаў ён сапраўдным энцыклапедыстам, асабліва ў мастацкай літаратуры. Часта ў размовах цытаваў на памяць сваіх любімых пісьменнікаў. Прычым чытаў не толькі многа, але і вельмі хутка. Не паспееш прагледзець новы часопіс, як Іван Антонавіч яго ўжо цалкам прачытаў і раіў, на што звярнуць увагу. Меў вялікую бібліятэку, якую паступова шчодра па частках раздаваў у розныя ўстановы. Калі я пісаў успаміны пра майго тату Гаўрылу Іванавіча і дзяліўся з Іванам Антонавічам пра яго настаўніка ў Ціміразеўскай акадэміі А.В.Чаянава і побыт на Беламорска-Балтыйскім канале, дык Янка тут жа мне падараваў мастацкую кнігу Чаянава "Гофманиада" і кнігу з успамінамі ўдзельнікаў гэтага будаўніцтва.

Янка Брыль быў вельмі добразычлівым чалавекам, меў вялікае кола сяброў, спачатку больш старэйшых за сябе, а потым і маладзейшых. У людзях галоўнай станоўчай якасцю цаніў чалавечнасць, не цярпеў двурушнасці, а сяброўства любіў "на роўных". Таму значна маладзейшым — спачатку Нілу Гілевічу, а потым і мне — прапанаваў перайсці на "ты". Гэта было для нас не проста, але вельмі прыемна і прыносіла гонар. Ён заўсёды адгукаўся на чужы боль. Памятаю, як Іван Антонавіч 3 жніўня 1994 года, пачуўшы ад некага, што ў мяне памерла маці, прыйшоў на пахаванне, сказаў вельмі шчырыя добрыя словы, падтрымаў мяне, а потым застаўся на памінках, і гэта нягледзячы на тое, што наступным днём ён адзначаў сваё 77-годдзе.

Янка Брыль вельмі прыязна ставіўся да дзейснасці Максіма Гарэцкага, творы якога не толькі поўнасцю ўважліва прачытаў, але і перачытваў. З такой жа павагай і сяброўствам адносіўся і да Гаўрылы Гарэцкага і Галіны Максімаўны, з якімі сустракаўся, перапісваўся. У 1980 годзе ён надрукаваў эсэ "Пасля лемантара", у якім выказаў *"няпершае захапленне братамі Гарэцкімі, пісьменнікам і вучоным."*. Ён адкрываў і вёў першыя афіцыйныя вечары, прысвечаныя юбілейным датам Максіма Гарэцкага (пачынаючы з 75-годдзя), а на 90-годдзе і 100-годдзе выступіў са змястоўнымі думкамі пра жыццё і творчасць пісьменніка.

У 1988 годзе Іван Антонавіч так усхвалявана і шчыра выступіў на пахаванні майго таты, што я не мог стрымаць слязу і сардэчна падзякаваў майму лепшаму старэйшаму сябру. На навуковай канферэнцыі ў НАН Беларусі, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння Г.Гарэцкага (10.04.2000 г.) Янка Брыль выступіў з цёплымі ўспамінамі пра сустрэчы з Гаўрылам Іванавічам, высока ацаніў яго жыццё і ўклад у справу нацыянальнага адраджэння Беларусі. Ён напісаў артыкул "Сялянскае, народнае" для кнігі "Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі. Успаміны, артыкулы, дакументы. Да 100-годдзя з дня нараджэння" (2000).

Янка Брыль удзельнічаў амаль ва ўсіх "Гарэцкіх чытаннях", што надавала ім большую значнасць. Удзельнікі чытанняў заўсёды радаваліся яго прысутнасці, дзякавалі за крытычныя заўвагі і былі шчаслівыя ад пахвалы вялікага майстра слова.

Жыццялюб і аптыміст ад прыроды, Іван Антонавіч любіў песні, меў моцны прыемны голас, ведаў процьму беларускіх, польскіх, украінскіх, рускіх песень і выконваў іх выдатна. Як было добра ехаць на "Гарэцкія чытанні" ў Горкі ці Магілёў і назад групай самых актыўных удзельнікаў канферэнцыі (М. Мушынскі, Т.Голуб, Т.Дасаева) і пад кіраўніцтвам галоўнага саліста нашага невялікага хору Янкі Брыля падпяваць яму! У яго сэрцы і душы заўсёды гучала песня. Нават калі ў апошнія гады ён жыў адзін, казаў мне: "А ведаеш, я і тут часта спяваю".

Калі на пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя мяне выбралі віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук Беларусі, я вельмі хацеў зрабіць яе больш нацыянальнай і таму прапанаваў Бюро Прэзідыума аднавіць выбары ганаровых акадэмікаў, якіх не было ўжо 35 гадоў. У ганаровыя члены акадэміі выбіраюцца грамадзяне Беларусі, якія ўнеслі вялікі ўклад у развіццё культуры і адукацыі рэспублікі. У 1994 годзе ганаровымі акадэмікамі сталі Янка Брыль і Пімен Панчанка — найвыдатнейшыя прадстаўнікі беларускай літаратуры і вядомыя грамадскія дзеячы. Нават толькі адна прысутнасць гэтых асоб надавала Агульнаму сходу АН Беларусі большую значнасць, урачыстасць і беларускасць. На жаль, пасля новых выбараў Прэзідыума АН Беларусі і выбараў Прэзідэнта дзяржавы беларуская мова, пытанні беларускай літаратуры і культуры паступова пачалі пакідаць акадэмію, а нашых паважаных ганаровых акадэмікаў нярэдка проста забываліся запрасіць на сходы Аддзялення гуманітарных навук і на агульныя сходы АН Беларусі.

Янка Брыль — сапраўдны інтэлігент, які заўсёды заставаўся самім сабой з дзівоснай сціпласцю і годнасцю, дабрынёй і мудрасцю; вялікі грамадзянін краіны, дзеля росквіту якой рабіў усё, што мог; гонар беларускай нацыі, які так глыбока змог спасцігнуць народную душу; сумленне нацыі, які зваў свой народ да нацыянальнай самасвядомасці і агульначалавечых каштоўнасцяў.

Ён памёр шэсць гадоў таму, не дажыўшы 10 дзён да 89-годдзя.

**Радзім ГАРЭЦКІ, акадэмік.**



**Янка Брыль з Вітаўтам Кіпелем і Радзімам Гарэцкім на канферэнцыі "Культура беларускага замежжа". Дом пісьменніка. Мінск, чэрвень 1994 г.**



**Віншаванне з 80-годдзем. Ніл Гілевіч і Радзім Гарэцкі. Крынічнае. 4 жніўня 1997 г.**



**На 85-годдзе Янкі Брыля ў Крынічным (4 жніўня 2002 г.). Справа налева: Алесь Рыбак, Эрнест Ялугін, Вольга Іпатава, Ягор Фядзюшын, Янка Брыль з жонкай — Нінай Міхайлаўнай, дочкі — Вольга і Наталля, унучка Данута з мужам, Радзім і Галіна Гарэцкія.**



**Янка Брыль з сябрамі. Размова пра жыццё юбіляра. Крынічнае. 4 жніўня 1997 г.**



**Янка Брыль і Радзім Гарэцкі ў пакоі юбіляра. Крынічнае. 4 жніўня 1977 г.**



**Янка Брыль і Радзім Гарэцкі мераюць дыяметр дуба ў даліне Нёмана каля Крынічнага. 4 жніўня 2000 г.**

ПІКІРОЎКА

***Вельмі адчувальная страта для беларускай зборнай. Прэтэндэнт на залаты медаль Алмпіяды, чэмпіён Пекінскай алімпіяды Андрэй Арамнаў у Лондан не паехаў. Што адбылося?***

## *Андрэй АРАМНАЎ:* "Ганчароў улез няўмелымі рукамі"



— Я магу сказаць толькі адно: Аляксандр Ганчароў усё ж такі сапсаваў маю падрыхтоўку да Алімпіяды і ўлез сваімі няўмелымі рукамі ў алімпійскі рухавік, — заявіў Андрэй Арамнаў газеце "Прессбол".

**— Але дазвольце, галоўны трэнер зборнай Аляксандр Ганчароў па пагадненні бакоў ужо на працягу доўгага часу ніяк не ўплывае на ваш трэніровачны працэс і на вашу падрыхтоўку...**

— А хто фактычна прымусіў мяне выступіць на нейкіх левых спаборніцтвах для дзяцей! Каму яны былі патрэбныя? Мабыць, толькі Ганчарову.

**— Але Ганчароў жа вас не прымушаў у стартавым падыходзе заказваць нерэальныя 230 кілаграмаў.**

— Якая розніца! Я да гэтага 20 дзён не трэніраваўся з-за пашкоджання косці рукі і, пастаўлены перад фактам абавязковага ўдзелу ў гэтай "школьнай спартакіядзе", вымушаны быў фарсіраваць падрыхтоўку. Дык да чаго рыхтаваўся алімпійскі чэмпіён — да галоўнага старту чатырохгадовага цыклу або да дзіцячага ранішніка? Я ж, у рэшце рэшт, не жалезны. Чалавечы арганізм мае нейкія межы і жыве па законах прыроды, якія ніяк не пераскочыш. У выніку атрымаў траўму, лячыцца трэба прыкладна 60 дзён. Але ў мяне не было ў запасе гэтых двух месяцаў, таму я ўжо праз 25 дзён ірваў 190 кіло і штурхаў 220. Вось мышца і не вытрымала, здарыўся больш глыбокі надрыў.

Не сумняваюся, што праз два месяцы буду абсалютна здаровым, але каму я буду патрэбны здаровым праз два месяцы? Гульні ж ужо пройдуць!

**— Калі казаць папросту — Лондан для вас накрыўся?**

— Так, Ганчароў свайго дамогся — мяне на Гульнях не будзе.

## *Аляксандр ГАНЧАРОЎ:* «Няхай Арамнаў скажа заўзятарам праўду пра сябе»



Галоўны трэнер зборнай Беларусі па цяжкай атлетыцы Аляксандр Ганчароў здзіўлены абвінавачваннямі Андрэя Арамнава.

— Сітуацыя на самай справе вельмі простая. Спачатку спартсмен заяўляў усюды, што Ганчароў не мае ніякага дачынення да яго пекінскага трыумфу і да працэсу падрыхтоўкі. А калі для ўсіх, у тым ліку і для яго самога, стала відавочным, што да Гульняў у Лондане Андрэй папросту не гатовы, ён раптам успомніў, што галоўны трэнер улез сваімі няўмелымі рукамі ў яго дакладны і адладжаны алімпійскі рухавік. Дык навошта я буду шукаць логіку там, дзе яна зроду не жыла?

Я зараз здзіўляюся толькі чалавечаму нахабству і бяспамяцтву. Ён сам выбіраў сабе месца трэніровак і збораў, калі хацеў — трэніраваўся, калі не хацеў — не браў штангу ў рукі. Ён сам павінен несці адказнасць за свае ўчынкі і рашэнні. Не перада мной — я для яго, мабыць, наогул пустое месца, а перад шматлікімі заўзятарамі, якія да апошняга верылі ў яго і чакалі выступлення Андрэя ў Лондане. Няхай пакладзе руку на сэрца і скажа ім праўду пра сябе і пра сваё разуменне жыцця.



Народная Воля http://www.nv-online.info 3 ЖНІЎНЯ 2012 г.

## ПОНЕДЕЛЬНИК, 6 АВГУСТА

### Беларусь 1

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.45** «Новости».
**07.05, 08.05, 18.45, 23.35** «Зона Х».
**07.30, 08.30** «Деловая жизнь».
**09.10** «В центре внимания».
**08.45** Слово Митрополита Тадеуша Кондрусевича на Преображение Господне.
**10.05** «Время Союза».
**11.00** «Звездная жизнь».
**12.10 «Маргоша».** Сериал.
**14.05** Мультфильм.
**14.25** «N-17. Поэзия абстрактного». Док.фильм.
**15.15, 19.20** «Новости региона».
**15.25** «Моя правда».
**16.20 «Капля света».** Сериал.
**17.15 «Маруся. Возвращение».** Сериал.
**18.15** «Арена».
**19.40** «Калыханка».
**19.55 «Сваты-5».** Сериал.
**21.00** «Панорама».
**21.45 «За все тебя благодарю-2».** Сериал.
**22.45 «Доктор Хаус-6».** Сериал.
**00.00** «День спорта».
**00.15 «Экстракт».** Худ.фильм.

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** «Наши новости».
**06.05** «Наше утро».
**09.05** «Контуры».
**10.05** «Жить здорово!».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** «Новости спорта».
**11.10** «Эпоха «Пьеха».
**12.05 «Сердце Марии».** Сериал.
**13.10** «Хочу знать».
**13.40** «Контрольная закупка».
**14.10** «Модный приговор».
**15.10 «Обручальное кольцо».** Сериал.
**16.15 «Воры в законе».** Худ.фильм.
**18.20** «Обратный отсчет».
**19.05** «Жди меня».
**20.00** «Время».
**21.05 «Дом образцового содержания».** Сериал.
**22.15 «Закрытая школа».** Сериал.
**23.20** «Холод. В поисках бессмертия».
**00.20** «Детектор лжи».
**01.10** «Ночные новости».

### РТР-Беларусь

**07.00** «Утро России».
**10.00** «Комната смеха».
**10.55** «Погода на неделю».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** «Вести».
**11.30** «Утренняя почта».
**12.00** «Прямой эфир».
**12.50 «Институт благородных девиц».** Сериал.
**13.50, 16.50, 19.50, 23.05** «Новости — Беларусь».
**14.30** «С новым домом!».
**15.10** «О самом главном».
**15.55** «Городок». Дайджест.
**17.30** «Местное время. Вести — Москва».
**17.45** «Вести. Дежурная часть».
**17.55** «Люблю, не могу!».
**18.55 «Ефросинья. Продолжение».** Сериал.
**20.30 «Самара».** Сериал.
**21.25 «Тайны следствия».** Сериал.
**23.15** «Верность подранка. Николай Губенко».
**00.10 «Детективное агентство «Иван да Марья».** Сериал.

### НТВ-Беларусь

**06.05** «НТВ утром».
**08.10 «Возвращение Мухтара».** Сериал.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 23.10** «Сегодня».
**10.20** «Чистосердечное признание».
**11.05** «До суда».
**12.00** «Суд присяжных».
**13.20** «Судебный детектив».
**14.20** «Средь бела дня».
**15.10** «Дело вкуса».
**15.35, 18.35** «Обзор. Чрезвычайное происшествие».
**16.20** «Прокурорская проверка».
**17.20** «Говорим и показываем».
**18.10** «Главная дорога».
**19.35 «Москва. Три вокзала».** Сериал.
**21.25 «Наркотрафик».** Сериал.
**23.35 «Глухарь. Продолжение».** Сериал.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 часа».
**06.10, 17.20** «Минщина».
**06.20, 07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.40, 20.10, 22.55** «СТВ-спорт».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.10** «Зеленый огурец. Полезная передача».
**10.40** «Семейные драмы».
**11.40, 17.30** «Званый ужин».
**12.35, 18.30 «Нина».** Сериал.
**13.50** «Центральный регион».
**14.20** «Звездный ринг».
**15.15** Концерт Михаила Задорнова.
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.15** «Добрый вечер, малыш!».
**20.30 «Мужчина для жизни, или На брак не претендую».** Худ.фильм.
**23.00** «Тайны мира».
**23.50** «Адская кухня».

### Беларусь 2

**07.30** Лондон-2012. Баскетбол. Женщины. Великобритания—Бразилия.
**09.00** Лондон-2012. Гандбол. Женщины. Норвегия—Испания.
**10.30, 19.10, 23.05** Лондон-2012. «Дневник Олимпиады». Прямая трансляция.
**10.55** Лондон-2012. Баскетбол. Мужчины. Австралия—Россия. Прямая трансляция.
**12.45** Лондон-2012. Гребля на байдарках и каноэ. Легкая атлетика. Баскетбол. Прямая трансляция.
**15.00** Лондон-2012. Борьба греко-римская. Бокс. Гимнастика спортивная. Прямая трансляция.
**18.30, 19.35** Лондон-2012. Велоспорт. Прямая трансляция.
**19.05, 21.20** «Телебарометр».
**20.45, 21.30** Лондон-2012. Легкая атлетика. Борьба греко-римская. Тяжелая атлетика. Прямая трансляция.
**21.25** «КЕНО».
**23.30** Лондон-2012. Бокс. Прямая трансляция.

### Мир

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** «Новости Содружества».
**05.05, 06.05 «Волчица».** Сериал.
**07.05** «Тик-так».
**07.25** «Йога Life».
**08.05** «Энциклопедия вкуса».
**08.35, 09.05, 10.05 «Держи меня крепче».** Сериал.
**11.05** «Кыргызстан в лицах».
**11.25, 02.00** «Сделано в СССР».
**12.20** «Флот». Док.фильм.
**13.20, 02.40 «Поздняя встреча».** Худ.фильм.
**15.25 «Обручальное кольцо».** Сериал.
**17.05, 23.05** «Слово за слово».
**18.25 «Веревка из песка».** Сериал.
**21.25, 04.25** «Музыкальный иллюминатор».
**22.05** «Невероятная правда о звездах».
**00.05, 01.05 «Комиссар Наварро».** Сериал.

### Белсат

**07.00, 13.20, 20.35** "Размовы эксперта".
**07.20, 19.35** "Англійская для дзяцей".
**07.25** "Казкі для дзетак".
**07.35 "Піпі Доўгаяпанчоха".** Серыял.
**08.35 "Мой родны горад".** Серыял.
**09.00, 19.10** "Басанож па свеце".
**09.25, 17.05** "Піянеры змен. ЗША". Дак.фільм.
**10.20** "Euromaxx".
**10.45 "Каралева Бона".** Серыял.
**11.45** "Дзень, калі памёр Тыто". Дак. фільм.
**12.35**"Форум".
**13.35** "Кружэлка".
**14.10 "Арол: крымінальная сага".** Серыял.
**15.05** "Троіца". Фільм-канцэрт.
**15.50 "Завітай да мяне ў сне".** Маст.фільм.
**18.00, 19.00, 20.00, 21.00, 23.50** "Аб'ектыў".
**18.10 "Час гонару".** Серыял.
**19.45** "Калыханка для самых маленькіх".
**20.10** "Еўропа сёння".
**21.25** "Гісторыя — на вакацыі". "Першая катастрофа". Дак.фільм.
**21.55 "Дні футбола".** Маст.фільм.
**00.15 "Афіцэр".** Серыял.
**01.00** "Калыханка" ад Сашы і Сірожы".

## ВТОРНИК, 7 АВГУСТА

### Беларусь 1

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 00.00** «Новости».
**07.05, 08.05, 17.45, 23.50** «Зона Х».
**07.30, 08.30** «Деловая жизнь».
**09.10, 21.55 «За все тебя благодарю-2».** Сериал.
**10.10** «Арена».
**10.40** Мультфильм.
**10.50 «Сваты-5».** Сериал.
**12.10 «Маргоша».** Сериал.
**14.05, 23.00 «Доктор Хаус-6».** Сериал.
**15.15, 18.10** «Новости региона».
**15.25** «Врачебные тайны».
**15.55 «Капля света».** Сериал.
**16.50 «Маруся. Возвращение».** Сериал.
**18.55** Лондон-2012. Олимпийские игры. Футбол. Полуфинал. Прямая трансляция.
**21.00** «Панорама».
**21.45** «Актуальное интервью».
**00.15** «День спорта».
**00.30 «Лофт».** Худ.фильм.

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** «Наши новости».
**06.05** «Наше утро».
**09.05** «Жить здорово!».
**10.20** «Между нами, девочками».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** «Новости спорта».
**11.10 «Наследство».** Сериал.
**12.05 «Сердце Марии».** Сериал.
**13.10** «Хочу знать».
**13.40** «Контрольная закупка».
**14.10** «Модный приговор».
**15.10 «Обручальное кольцо».** Сериал.
**16.15** «Понять. Простить».
**17.00** «Давай поженимся».
**18.20 «Счастливы вместе».** Сериал.
**18.55** «Пусть говорят».
**20.00** «Время».
**21.05 «Дом образцового содержания».** Сериал.
**22.15 «Закрытая школа».** Сериал.
**23.20** «Маленькие гиганты большого кино».
**00.20** «Детектор лжи».
**01.10** «Ночные новости».

### РТР-Беларусь

**07.00** «Утро России».
**10.05, 00.05 «Детективное агентство «Иван да Марья».** Сериал.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** «Вести».
**11.30, 17.30** «Местное время. Вести — Москва».
**11.45, 17.45** «Вести. Дежурная часть».
**12.00** «Прямой эфир».
**12.50 «Институт благородных девиц».** Сериал.
**13.50, 16.50, 19.50, 23.05** «Новости — Беларусь».
**14.30** «С новым домом!».
**15.10** «О самом главном».
**15.55** «Городок». Дайджест.
**17.55** «Люблю, не могу!».
**18.55 «Ефросинья. Продолжение».** Сериал.
**20.30 «Самара».** Сериал.
**21.25 «Тайны следствия».** Сериал.
**23.15** «Между драмой и комедией. Ян Арлазоров».

### НТВ-Беларусь

**06.05** «НТВ утром».
**08.10 «Возвращение Мухтара».** Сериал.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 23.10** «Сегодня».
**10.20** «Чистосердечное признание».
**11.05** «До суда».
**12.00** «Суд присяжных».
**13.20** «Судебный детектив».
**14.25** «Средь бела дня».
**15.10** «Дело вкуса».
**15.35, 18.35** «Обзор. Чрезвычайное происшествие».
**16.20** «Прокурорская проверка».
**17.20** «Говорим и показываем».
**18.10** «В зоне особого риска».
**19.35 «Москва. Три вокзала».** Сериал.
**21.25 «Наркотрафик».** Сериал.
**23.35 «Глухарь. Продолжение».** Сериал.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 часа».
**06.10, 17.20** «Минщина».
**06.20, 07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.40, 20.10, 22.55** «СТВ-спорт».
**08.30 «Мужчина для жизни, или На брак не претендую».** Худ.фильм.
**10.40** «Семейные драмы».
**11.40, 17.30** «Званый ужин».
**12.35, 18.30 «Нина».** Сериал.
**13.50 «Генри Пул уже здесь».** Худ. фильм.
**15.40** «Военная тайна».
**16.50 «Следаки».** Сериал.
**20.00** «Столичные подробности».
**20.15** «Добрый вечер, малыш!».
**20.40 «Мимино».** Худ.фильм.
**23.00** «Автопанорама».
**23.20 «Убойная сила-5».** Сериал.
**00.15** «Механический апельсин».

### Беларусь 2

**07.30** Лондон-2012. Баскетбол. Мужчины. Аргентина—США.
**09.00** Лондон-2012. Гандбол. Мужчины. Испания—Хорватия.
**10.30, 18.30, 23.20** Лондон-2012. «Дневник Олимпиады». Прямая трансляция.
**10.55** Лондон-2012. Баскетбол. Мужчины. Испания—Бразилия. Прямая трансляция.
**11.25** Лондон-2012. Гребля на байдарках и каноэ. Легкая атлетика. Баскетбол. Прямая трансляция.
**14.35** Лондон-2012. Гандбол. Женщины. ¼ финала.
**16.00** Лондон-2012. Борьба греко-римская. Волейбол. Прямая трансляция.
**18.25, 21.20** «Телебарометр».
**18.55** Лондон-2012. Велоспорт. Прямая трансляция.
**20.45, 21.30** Лондон-2012. Легкая атлетика. Борьба греко-римская. Тяжелая атлетика. Прямая трансляция.
**21.25** «КЕНО».
**23.45** Лондон-2012. Волейбол. Женщины. ¼ финала. Прямая трансляция.
**00.45** Лондон-2012. Гандбол. Женщины. ¼ финала. Прямая трансляция.

### Мир

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** «Новости Содружества».
**05.05, 06.05 «Волчица».** Сериал.
**07.05** «Тик-так».
**07.25** «Йога Life».
**08.05** «Энциклопедия вкуса».
**08.35, 09.05, 10.05 «Держи меня крепче».** Сериал.
**11.05** «Общий рынок».
**11.25** «Общий интерес».
**12.20** «Флотоводцы России. XX век». Док.фильм.
**13.20, 02.40 «Душа».** Худ.фильм.
**15.25 «Обручальное кольцо».** Сериал.
**17.05, 23.05** «Слово за слово».
**18.25 «Веревка из песка».** Сериал.
**21.25, 04.25** «Диаспоры».
**22.05** «Правила жизни».
**00.05, 01.05 «Комиссар Наварро».** Сериал.
**02.00** «Всюду жизнь».

### Белсат

**07.00, 18.00, 19.00, 20.00, 21.00, 23.50** "Аб'ектыў".
**07.25, 19.40** "Англійская для дзяцей".
**07.30** "Казкі для дзетак".
**07.45, 17.05** "Дзень, калі памёр Тыто". Дак.фільм.
**08.35, 18.10 "Час гонару".** Серыял.
**09.20, 15.15** "Басанож па свеце".
**09.50, 15.40** "Еўропа сёння".
**10.15** "Размова эксперта".
**10.30, 16.35** "Гісторыя — на вакацыі": "Першая катастрофа". Дак. фільм.
**11.05** "Дні футбола". Дак.музычны фільм.
**12.55** "Моўнік".
**13.05** "Два на два".
**13.30** "Піянеры змен. ЗША". Дак. фільм.
**14.25, 00.20 "Афіцэры".** Серыял.
**16.05** "МакраФон"."Minsk-Mixt-2008". Канцэрт гурта "Dali".
**16.20** "Размовы эксперта".
**19.10** "Навігатар".
**19.25** "Паляванне на дзівосы".
**19.45** «Калыханка для самых маленькіх".
**20.10** «На колах».
**20.35** "Прыватная калекцыя».
**21.25** "Беларусы ў Польшчы".
**21.40** "Форум".
**22.30** "Блізкая гісторыя. Іншы погляд". "Ноч з генералам". Дак.фільм.
**23.30** "МакраФон". "Басовішча-2007". Выступленне гурта "Крамбамбуля".
**01.05** "Калыханка" ад Сашы і Сірожы.

## СРЕДА, 8 АВГУСТА

### Беларусь 1

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** «Новости».
**07.05, 08.05, 18.45, 00.00** «Зона Х».
**07.30, 08.30** «Деловая жизнь».
**09.10, 22.10 «За все тебя благодарю-2».** Сериал.
**10.10** «Сфера интересов».
**10.40** «Коробка передач».
**11.10** Мультфильм.
**11.25** «Слуцкія паясы — знакі лесу». Док.фильм.
**12.10 «Маргоша».** Сериал.
**14.00, 23.10 «Доктор Хаус-6».** Сериал.
**15.15, 19.20** «Новости региона».
**15.35** «Все путем!».
**16.05** «Зямля беларуская».
**16.20 «Капля света».** Сериал.
**17.15 «Маруся. Возвращение».** Сериал.
**19.40** «Калыханка».
**19.55 «Сваты-5».** Сериал.
**21.00** «Панорама».
**21.45** «Белорусское село».
**00.25** «День спорта».
**00.40 «Аристократы».** Худ.фильм.

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** «Наши новости».
**06.05** «Наше утро».
**09.05** «Жить здорово!».
**10.20** «Между нами, девочками».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** «Новости спорта».
**11.10 «Наследство».** Сериал.
**12.05 «Сердце Марии».** Сериал.
**13.10** «Хочу знать».
**13.40** «Контрольная закупка».
**14.10** «Модный приговор».
**15.10 «Обручальное кольцо».** Сериал.
**16.15** «Понять. Простить».
**17.00** «Давай поженимся!».
**18.20 «Счастливы вместе».** Сериал.
**18.55** «Пусть говорят» с Андреем Малаховым».
**20.00** «Время».
**21.05 «Дом образцового содержания».** Сериал.
**22.15 «Закрытая школа».** Сериал.
**23.20** «Апокалипсис-2012. Когда наступит судный день».
**00.20** «Детектор лжи».
**01.10** «Ночные новости».

### РТР-Беларусь

**07.00** «Утро России».
**10.05, 00.05 «Детективное агентство «Иван да Марья».** Сериал.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** «Вести».
**11.30, 17.30** «Местное время. Вести — Москва».
**11.45, 17.45** «Вести. Дежурная часть».
**12.00** «Прямой эфир».
**12.50 «Институт благородных девиц».** Сериал.
**13.50, 16.50, 19.50, 23.05** «Новости — Беларусь».
**14.30** «С новым домом!».
**15.10** «О самом главном».
**15.55** «Городок». Дайджест.
**17.55** «Люблю, не могу!».
**18.55 «Ефросинья. Продолжение».** Сериал.
**20.30 «Самара».** Сериал.
**21.25 «Тайны следствия».** Сериал.
**23.15** «Запах Родины».

### НТВ-Беларусь

**06.05** «НТВ утром».
**08.10 «Возвращение Мухтара».** Сериал.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 23.10** «Сегодня».
**10.20** «Развод по-русски».
**11.10** «До суда».
**12.00** «Суд присяжных».
**13.20** «Судебный детектив».
**14.25** «Средь бела дня».
**15.10** «Дело вкуса».
**15.35, 18.35** «Обзор. Чрезвычайное происшествие».
**16.20** «Прокурорская проверка».
**17.20** «Говорим и показываем».
**18.10** «Спасатели».
**19.35 «Москва. Три вокзала».** Сериал.
**21.25 «Дознаватель».** Сериал.
**23.35 «Глухарь. Продолжение».** Сериал.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 часа».
**06.10, 17.20** «Минщина».
**06.20, 07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.40, 20.10, 22.55** «СТВ-спорт».
**08.30** «Автопанорама».
**08.50 «Мимино».** Худ.фильм.
**10.40** «Семейные драмы».
**11.40, 17.30** «Званый ужин».
**12.35, 18.30 «Нина».** Сериал.
**13.50 «Холостяки».** Сериал.
**14.40 «Убойная сила-5».** Сериал.
**15.35** «Час суда».
**16.50 «Следаки».** Сериал.
**20.00** «Столичные подробности».
**20.15** «Добрый вечер, малыш!».
**20.40 «Вернуть Веру».** Худ.фильм.
**23.00** «Добро пожаловаться».
**23.20 «Убойная сила-5».** Сериал.
**00.15** «Странное дело».

### Беларусь 2

**07.30** Лондон-2012. Баскетбол. Женщины. ¼ финала.
**09.00** Лондон-2012. Футбол. Мужчины. Полуфинал.
**11.00, 19.10, 23.55** Лондон-2012. «Дневник Олимпиады». Прямая трансляция.
**11.25** Лондон-2012. Гребля на байдарках и каноэ. Прямая трансляция.
**12.50** Лондон-2012. Легкая атлетика. Прямая трансляция.
**15.40** Лондон-2012. Борьба вольная. Прямая трансляция.
**17.45** Лондон-2012. Гандбол. Мужчины. ¼ финала. Прямая трансляция.
**19.05, 21.20** «Телебарометр».
**19.35** Лондон-2012. Баскетбол. Мужчины. ¼ финала. Прямая трансляция.
**20.55, 21.35** Лондон-2012. Легкая атлетика. Борьба вольная. Прямая трансляция.
**21.25** «Спортлото 5 из 36».
**21.30** «КЕНО».
**00.20** Лондон-2012. Бокс. Прямая трансляция.

### Мир

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** «Новости Содружества».
**05.05, 06.05 «Волчица».** Сериал.
**07.05** «Тик-так».
**07.25** «Йога Life».
**08.05** «Энциклопедия вкуса».
**08.35, 09.05, 10.05 «Держи меня крепче».** Сериал.
**11.05** «Кыргызстан в лицах».
**11.25** «Путеводитель».
**12.20** «Армия. Российская история XX столетия: хмурое утро. Красная армия».
**13.20, 02.40 «Линия жизни».** Сериал.
**15.25 «Обручальное кольцо».** Сериал.
**17.05, 23.05** «Слово за слово».
**18.25 «Веревка из песка».** Сериал.
**21.25, 04.25** «Секретные материалы».
**22.05** «Правила жизни».
**00.05, 01.05 «Комиссар Наварро».** Сериал.
**02.00** «Добро пожаловать».

### Белсат

**07.00, 18.00, 19.00, 20.00, 21.00, 22.50** "Аб'ектыў".
**07.25, 19.45** "Англійская для дзяцей".
**07.30** "Казкі для дзетак".
**07.40, 11.40** "Форум".
**08.30, 18.10 "Час гонару".** Серыял.
**09.15, 13.15** "Навігатар".
**09.30, 13.30** "Паляванне на дзівосы".
**09.45, 13.50** "На колах".
**10.15, 14.15** "Прыватная калекцыя".
**10.35, 14.40** "Беларусы ў Польшчы".
**10.55, 16.10** "Блізкая гісторыя. Іншы погляд". "Ноч з генералам". Дак. фільм.
**12.30 "Афіцэры".** Серыял.
**14.55** "МакраФон". Канцэрт гурта "N.R.M.".
**15.55** "Бульбаны". Мультсерыял.
**17.00 "Таямніца крэпасці шыфраў".** Серыял.
**17.45** "Беларусь — адзін верш". Дак.цыкл.
**19.10** "Кулінарныя падарожжы Роберта Макловіча".
**19.35** "Гісторыя пад знакам "Пагоні".
**19.50** «Калыханка для самых маленькіх».
**20.10** "Праект "Будучыня".
**20.40** "Алег Бябенін: "Я застануся". Дак.фільм.
**21.25** "Побач з намі".
**21.40 "Кароль-вінароб".** Серыял.
**22.30** "Алкаш". Дак.фільм.
**23.15 "Фальшываманетчыкі. Вяртанне "Зграі".** Серыял.
**00.05** "Калыханка" ад Сашы і Сірожы".

ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?

# 4 — 12 жніўня

## МІНСК

### ТЭАТРЫ

**Сучасны мастацкі тэатр**
6 — "Турандот".
9, 15 — "Кастинг".

### ФЕСТЫВАЛІ

**Рака Ісляч, 30 км ад Мінска**

Летні арт-пікнік **Freaky Summer Party** 4 жніўня парадуе пляжнай сцэнай з танцавальнай бас-музыкай ад дзіджэяў з Літвы і Беларусі.

### ШОУ

**Fashion Club**

8 жніўня адбудзецца турнір па правілах муай тай сярод прафесіяналаў. Турніры байцоўскага клуба «Васьміног» — серыя паядынкаў па самых жорсткіх і самых відовішчных правілах адзінаборстваў.

**Bogema**

10 жніўня адбудзецца ўрачыстае адкрыццё Міжнароднага фестывалю караоке «Зорка Караоке»-2012.



### ВЫСТАВЫ

**Палац культуры "La мора"**

6 жніўня адбудзецца адкрыццё дабрачыннай фотавыставы-продажу «Мастацтва дорыць жыццё». Усе сродкі, сабраныя ў ходзе мерапрыемства, будуць накіраваны на лячэнне Алі Валіева, што пакутуе ад лімфабластнага лейкозу. У мерапрыемстве прымуць удзел як пачаткоўцы і фатографы-аматары, так і майстра ў гэтай галіне (Сяргей Кажамякін, Уладзімір Парфянок, Віталь Раковіч і Надзея Дзегцярова). Таксама ў выставе будуць прадстаўлены работы LiiLaa Studio Studio.

### КАНЦЭРТЫ

**Jolly Roger Café**

7 — Адборачны тур "Крот-Рок-Фест".

**Robinson Club**

10 — Канцэрт **Веры Брэжневай**.

ВЕРНІСАЖ

# Мадэль раю

*Вось ужо шмат гадоў народны майстра Беларусі **Мікалай Тарасюк** стварае ўласную рэальнасць. Як сапраўдны Творца, ён выплятае, выразае і збівае дамы, калодзежы, пуні. Увесь "Страчаны рай" Тарасюка можна будзе пабачыць на яго персанальнай выставе.*

7 жніўня ў вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва адбудзецца адкрыццё персанальнай выставы **Мікалая Тарасюка** «Страчаны рай», прысвечанай 80-гадоваму юбілею аўтара.

На выставе ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва прадстаўлены скульптурныя кампазіцыі на тэмы сялянскага жыцця, якія выкананы ў тэхніцы разьбы па дрэве, расфарбаваны і ўмацаваны на падстаўках, плеценых з лазы.

Кампазіцыі могуць замяніць тамы энцыклапедый — настолькі рэалістычна і падрабязна яны выкананы. У кампазіцыях Мікалая Васільевіча паказаны сцэны з жыцця беларускай вёскі, асобныя абрады, цыклы твораў звязаны з паказам асобных відаў дзейнасці — земляробства, ткацтва. Аўтар таксама беражліва захоўвае ў сваіх работах народныя звычаі, традыцыі, святы. Звычайна адной падзеі з жыцця чалавека, напрыклад, вяселлю, прысвечана цэлая серыя работ.

Выстаўка працягнецца да 18 жніўня.







# Біяграфія майго горада

*Якім бачылі Мінск нашы прабабулі, што цікавага было сто гадоў таму ў Ракаве, ці моцна змяніліся беларускія гарады за апошнія гады? Для цікаўных ўраджэнцаў гарадскіх джунгляў у Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва адкрываецца выстава "Гарадскі пейзаж".*

Выстава адкрыецца для наведвальнікаў 7 жніўня. Кожны зможа даведацца, што гарадскі пейзаж — гэта жанр выяўленчага мастацтва, у якім асноўным прадметам малюнка з'яўляецца мясцовасць, прырода. Памятаеце знакамітыя карціны Марка Шагала, у якіх ён так любоўна апяваў Віцебск? Іншыя мастакі таксама стваралі маляўнічыя оды сваім родным гарадам. У наведвальнікаў выставы будзе ўнікальная магчымасць зазірнуць у патаемныя завуголлі невядомых месцаў і, магчыма, навучыцца па-новаму глядзець на свой родны кут.

У калекцыі Музея сучаснага выяўленчага мастацтва сабраны пейзажы вядомых мастакоў-жывапісцаў, працы якіх і складаюць экспазіцыю дадзенай выставы.

**Сяргей ШЭЛЕСТ.**

